# Падзеі • Здарэнні • Факты • Камэнтарыі • Весткі

СВЕТ | БССР | ПОЛЬШЧА | ВАЯВОДСТВА

## АБ В'ЕТНАМСКІМ КАНФЛІКЦЕ

Каб выйграць вайну ў В'етнаме, на працягу пяці год трэба будзе ад 500 тысяч да двух мільёнаў амерыканскіх салдат. Такую думку выказаў нядаўна навапакліканы шэф аддзела партызанскіх войнаў у Пентагоне.

Зацятасць баёў на Поўдні ўзрастае. Ад некалькі тыдняў над граніцай з Камбоджай ідуць вялікія баі. У гэтай аперацыі прыймае ўдзел больш 20.000 салдат ЗША.

Генеральны сакратар ААН У Тан усільна шукае мірных дарог дзеля ўрэгуляванне в'етнамскага канфлікту. У сваім новым пасланні У Тан яшчэ раз патрабаваў «трывалага, канчатковага і неагранічанага часам» спынення бамбардзіровак Паўднёвага В'етнама. На думку У Тана астатковае ўрэгуляванне канфлікту, паводле духа жэнеўскіх пагадненняў, будзе патрабаваць, каб аб лёсе краіны вырашылі самі в'етнамцы без нічыёй інтэрвенцыі.

## НАРАДА ПРАДСТАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ ВАРШАЎСКАГА ДАГАВОРУ

Ад 14 па 17 лістапада г.г. ў Будапешце адбылася нарада прадстаўнікоў узброеных сіл дзяржаў Варшаўскага дагавору. Ва ўсіх дыскутаваных справах удзельнікі нарады праявілі аднолькавыя пагляды і ўзаемнае зразуменне.

Наведалі яны вайсковыя часці вянгерскіх узброеных сіл і савецкія падраздзяленні, якія часова прабываюць на тэрыторыі Венгрыі, а таксама назіралі іх ваенныя вучэнні.

## ГАЗАВЫ ТРУБАПРАВОД СССР — ІТАЛІЯ

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мікалай Падгорны ў часе візіту ў Аўстрыі заявіў, што прадбачваецца пабудова вялікага савецкага трубапровода, які мае дастаўляць савецкі натуральны газ у Італію. Праўдападобна ў пабудове трубапровода прыйме ўдзел Францыя.

Прадбачваецца, што трубапровод праходзіў бы праз Аўстрыю. Размовы, якія правёў М. Падгорны ў Аўстрыі, даюць падставу да меркавання, што і Аўстрыя была б зацікаўлена пастаўкай газу з СССР.

## Г. ЖУКАЎ ПРА СТАЛІНА

«Сталін быў у Маскве, арганізуючы сілы і сродкі для разгрому ворага. Трэба справядліва сказаць, ён, узначальваючы Дзяржаўны Камітэт Абароны і абапіраючыся на кіруючы састаў наркаматаў, правёў вялікую работу па арганізацыі неабходных стратэгічных рэзерваў і матэрыяльна-тэхнічных сродкаў. Сваёй жорсткай патрабавальнасцю ён дабіўся, можна сказаць, немагчымага».

## ДАНЫЯ АБ СССР

Статыстычна берučы жыхар СССР ходзіць у тэатр 10 разоў, часцей чым статыстычны паляк, і больш як тры разы часцей у кіно. Тэлевізія большменш так як і ў нас: 1 тэлевізар на 15 жыхараў.

А. К.

## ВЫСТУПЛЕННЕ

**«Палітыку сілы — у архіў гісторыі».** Пад такім загалоўкам публікуецца выступленне міністра замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіча на пленарным пасяджэнні XXI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН з дня 15 лістапада 1966 г.

## З'ЕЗД

Адбыўся V З'езд кампазітараў Беларусі. З прамовaю на гэтым з'ездзе выступіў С. Пілатовіч, сакратар ЦК Кампартыі Беларусі.

З'езд выбраў новае праўленне Саюза кампазітараў БССР. Старшынёю праўлення стаў усім вядомы Рыгор Ширма. Адказным сакратаром праўлення выбрана Г. Вагнэра, а старшынёю рэвізійнай камісіі — І. Жыновіча.

У час з'езду адбываліся канцэрты. Вялікі канцэрт адбыўся ў сельскагаспадарчай арцелі «Новы быт». Выступілі там — Дзяржаўны народны аркестр БССР І. Жыновіча, Дзяржаўны народны хор БССР І. Цітовіча і салісты. А ў актавай зале Беларускага ўніверсітэта выступіла слаўная капэла Рыгора Шырмы. Выконваліся новыя творы кампазітараў, м. ін. Юры Семяпякі, Г. Вагнэра і інш.

## КАНФЕРЭНЦЫЯ

Адбылася другая рэспубліканская канферэнцыя Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Атрымана прывітальнае пісьмо ад ЦК Кампартыі Беларусі.

## СЕСІЯ

У Мінску адбылася 28 сесія Рады Інтэрвізіі (ОІРТ). У сесіі прымалі ўдзел дэлегацыі Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Польшчы, Румыніі, Фінляндыі, Чэхаславакіі, Савецкага Саюза, Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі. Беларускую тэлевізію неўзабаве пабачым на экранах Інтэрвізіі.

## 900-ГОДДЗЕ

Арганізацыйны камітэт святкавання 900-годдзя Мінска наладзіў выстаўку, на якой прадстаўлена каля ста праектаў юбілейных значкоў, медаляў, эмблемаў, прысвечаных 900-годдзю сталіцы Беларусі.

## ПАМЯЦІ

У Клубе Саюза пісьменнікаў БССР адбыўся вечар прысвечаны памяці трагічна загубленага беларускага паэта Міхася Чарота, аўтара паэм «Босыя на вогнішчы», «Ленін», «Беларусь лапцюжная». На вечары паказана адзін з першых беларускіх фільмаў «Лясная быль», пастаўлены па сцэнарыю Міхася Чарота.

## СМАРГОНСКІ

У заходнебеларускім мястэчку Смаргонь існуе ансамбль песні і танца імя Агінскага. Гэты ансамбль нядаўна ездзіў у Нямеччыну — у Берлін, Дрэздэн, Котбус і іншыя гарады. Смаргонцы выбіраюцца таксама і да нас, у Польшчу.

(С.Я.)

## ПЛЕНУМ ЗМС

У днях 14—16.XI. адбылося чарговае пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Саюза сялянскай моладзі (ЗМС), прысвечанае праблеме свабоднага ад працы часу. У абрадах падкрэслена патрэбу каардынацыі культурна-асветнай дзейнасці ў малых гарадах, рацыянальнага выкарыстання сродкаў прызначаных на гэтую дзейнасць праз рады нарадовыя, камітэты Фронту адзінства народу, клубы «Рух» і іншыя ўстановы.

## ПРАЕКТ ПЛАНА І БЮДЖЭТУ НА 1967 Г.

19.XI. на пасяджэнні камісіі Гаспадарчага плана, бюджэту і фінансаў адбылося першае чытанне праекта пастановы аб нацыянальным гаспадарчым плане на 1967 г. У пасяджэнні прынялі ўдзел прэзідыя іншых сеймавых камісій, а таксама прадстаўнікі камісіі планавання пры Савеце Міністраў, Міністэрства фінансаў і Найвышэйшай ізбы кантролю.

## ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА

17.XI. у Варшаве ў зале Вялікага тэатра адбылася цэнтральная ўрачыстасць прысвечаная Дню Настаўніка. Залу оперы запоўнілі настаўнікі, выхаваўцы, дзеячы асветы. З прадстаўнікоў дзяржаўных і партыйных улад на ўрачыстасці прысутнічалі: Эдвард Охаб, Ігнацы Лёга-Савінскі, Балеслаў Падэдворны, Ян Кароль Вэндэ, Вітальд Ярасінскі, Зэнан Новак.

Гэтага самага дня ў Бэльведэры адбылася ўрачыстасць адзначэння 98 педагогаў і дзеячоў асветы дыпломамі і адзнакамі «Заслужаны настаўнік ПРЛь», а таксама дзяржаўнымі адзнакамі прызнанымі Саветам Дзяржавы. Адзнакі ўручыў старшыня Савета Дзяржавы Эдвард Охаб.

## З'ЕЗД ПРАЦАЎНІКОЎ КНІЖКІ, ДРУКУ І РАДЫЁ

15 і 16 лістапада адбыліся абрады IV з'езда Прафсаюзаў працаўнікоў кніжкі, друку і радыё. На з'ездзе ацэнена прафесіянальныя і грамадскія дасягненні ў апошніх 4 гады, сарганізаваных у прафсаюзе асяроддзяў, а таксама выпрацавана новыя напрамкі дзейнасці.

Дыскусія сканцэнтравалася на істотных прафесіянальных і сацыяльных праблемах асяроддзяў ахопленых дзейнасцю прафсаюзаў, а таксама на праблемах супрацоўніцтва паміж выдавецтвамі, друкарнямі і кнігарнямі.

## АБРАДЫ ПАН У КАТОВІЦАХ

15 і 16 лістапада ў Катовіцах адбыліся абрады Прэзідыума Польскай акадэміі навук прысвечаныя навуковым праблемам Сілезскага прамысловага басейна. Да гэтага часу пры Польскай акадэміі навук дзейнічаў спецыяльны камітэт да спраў Сілезіі. У працах яго ўдзельнічала звыш 200 вучоных. Вынікі даследаў апублікаваны былі ў 68 тамах. Зараз асноўным заданнем з'яўляецца павязанне навуковых даследаў з прамысловай практыкай Сілезіі.

Ул. П.

## ПАРТЫЙНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

У радах ПАРП праходзіць зараз справаздачна-выбарчая акцыя. Павятовыя справаздачна-выбарчыя канферэнцыі ўжо адбыліся: у Аўгустове, Элку, Граеве, Ломжы, Саколцы, Моньках, Высокім Мазавецкім, Сейнах, Дуброве Беластоцкай і Кольне.

26 лістапада павятовыя справаздачна-выбарчыя канферэнцыі адбудуцца ў Гайнаўцы і ў Бельску. Гэтая акцыя будзе праходзіць да 6 снежня, а зараз пасля новага года адбудзецца ваяводская справаздачна-выбарчая канферэнцыя.

## НАСТАЎНІЦКАЕ СВЯТА

Цэлае ваяводства ўрачыста адзначала Дзень Настаўніка. У Беластоку ўрачыстае пасяджэнне адбылося 19 лістапада. Прынялі ў ім удзел А. Лашэвіч, С. Жмійка, Ст. Юхніцкі і іншыя прадстаўнікі кіруючых органаў нашага ваяводства. Многія настаўнікі атрымалі высокія дзяржаўныя адзнакі, ордэны і медалі. Дырэктар сакольскага ліцэя Балеслаў Плоньскі на ўрачыстасцях, якія праходзілі ў варшаўскім Бэльведэры, атрымаў Залаты Крыж Заслугі.

Урачыстасці з нагоды Дня Настаўніка папярэдзіла папулярна-навуковая канферэнцыя, прысвечаная распрацоўцы пытанняў тайнага навучання ў час акупацыі. Арганізатарамі канферэнцыі з'яўляюцца Саюз барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю і Саюз польскага настаўніцтва. Канферэнцыя выклікала даволі вялікае зацікаўленне ў цэлай краіне.

## ЗЛАДЗЕІ

Жыхары Мілейчыц: Віктар Тымашэвіч, Мікалай Давідзюк і Станіслаў Трафімовіч 12 мая г.г. напалі на жыхара вёскі Шчыты-Навадворы і адабралі яму 800 злотых. Суд у Сямяцічах, які нядаўна разглядаў гэтую справу, прыгаварыў злачынцаў на 3—4 гады турмы і на 1000 злотых грашовага штрафу кожнаму ды пазбавіў кожнага з іх грамадзянскіх праваў на 5 год.

## СПАРТЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ

У апошнім часе адбыліся сустрэчы гродзенскіх і беластоцкіх спартсменаў. У Беластоку праходзілі спаборніцтвы мужчын і жанчын у фехтаванні (шэрмерка). Матч быў разыграны ўнічыю. Быў гэта рэванш за пабыўку беластоцкіх фехтавальшчыкаў у Гродне.

У Лапах праходзілі спаборніцтвы гродзенскіх і беластоцкіх штангістаў. Перамогу атрымалі польскія спартсменты вынікам 4:3. Беластоцкім штангістам дапамаглі заваяваць перамогу штангісты з другіх раёнаў краіны, якімі беластачане ўзмоцнілі сваю каманду.

## ПАМЯЦІ ЗАГІНУЎШЫХ

У вёсцы Окулэк Сейненскага павета дзеля адзначэння памяці загінуўшых там партызан пабудавана помнік. Ініцыятарам яго будовы быў палкоўнік запаса Зігмунт Дзялынскі з Варшавы.

В.Р.

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA, 27.XI.

8.30 Politechnika TV. Geometria wykreślna — „Powierzchnie" cz. I; 9.05 Politechnika TV. Chemia — „Ogólne wiadomości o związkach organicznych — Węglowodory"; 9,35 36 lekcja jęz. ros.; 9.55 Politechnika TV. Matematyka — „Pochodna i jej sens geometryczny i fizyczny" cz. II; 12.40 PKF; 12.50 „Koncert Paganiniego" — („Piórkiem i węglem"); 13.10 „Morze, beczki, ludzie" — rep. film.; 13.30 Sprawozdanie sportowe; 14.15 „Przemiany" — Mag. Red. Wiejskiej; 14.35 Dla dzieci: Maria Kann — „Baśń o zaklętym kaczorze"; 15.40 „Wielka gra"; 16.30 Studio 63: „Napój ciernisty" — poezja Bolesława Leśmiana; 17.25 „Wieczór przy kominku" — prowadzi K. Rudzki; 18.00 Sprawozdanie sportowe; 19.15 Dobranoc; 20.40 Dz. TV; 21.10 „Noc poślubna" — film fab. CSRS; 22.45 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK, 28.XI.

17.00 Wiad dz. TV; 17.05 Dla dzieci: „Zaczarowany ołówek" — film; 17.15 Dla młodych widzów: „Rozkosze łamania głowy"; 17.35 „Gorąca linia"; 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.45 Magazyn Postępu Technicznego; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.10 Przemówienie Ambasadora Jugosławii; 20.20 Teatr TV: „Dom kobiet" Zofii Nałkowskiej; 21.40 „Na półkach księgarskich"; 21.50 „Klęski i nadzieja" — rep. film.; 22.20 Dz. TV.

WTOREK, 29.XI.

8.30 „Człowiek z fotografii" — film fab. jug; 9.55 Dla szkół: (kl. IX) Język polski — W. Szekspir „Makbet" („Dzieje dramatu"); 11.55 Dla szkół: (kl. V i VI) „Stara dzwonnica" („O miejsce wśród ludzi"); 16.00 Politechnika TV. Matematyka — „Istnienie pochodnej a ciągłość funkcji"; 16.30 Politechnika TV. Matematyka — „Pochodne funkcji elementarnych"; 17.00 Wiad. dz. TV; 17.05 Dla młodych widzów: (Młodzi wynalazcy ); 17.20 Dla młodych widzów: „Dawne dokumenty" („Klub pod Smokiem"); 17.55 Informator handlowy; 18.05 Film; 18.35 „Prezentujemy zespoły taneczne"; 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc. 19.30 Dz. TV; 20.00 „Naturze z pomocą"; 20.35 „Człowiek z fotografii" — film fab. jug.; 22.00 Dz. TV; 22.20 Politechnika TV. Matematyka — „Istnienie pochodnej a ciągłość funkcji"; 22.50 Politechnika TV. Matematyka — „Pochodne funkcji elementarnych".

ŚRODA, 30.XI.

11.00 „Naszyjnik cesarzowej" — film („Baron"); 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Węglowodany"; 15.50 37 lekcja jęz. ros.; 16.10 „Przypominamy, radzimy"; 16.20 PKF; 16.30 „Nieśmiałość" — film rozrywkowy; 16.45 Wiad. dz. TV; 16.50 Teatr Młodego Widza: Edmund Niziurski — „Lizus"; 17.45 „Bryza — magazyn morski"; 18.10 „Jazz w Filharmonii"; 18.35 Wszechnica TV: „Kształt — funkcja — użyteczność" (Rozmowy o współczesności); przed kamerami wystąpią: vicepremier — E. Szyr, min. — L. Motyka, prof. — J. Hryniewiecki, dyr. — Z. Szydłowska oraz red. I. Waniewicz; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 Jesień" — film. radz.; 20.15 „Naszyjnik cesarzowej" — film („Baron"); 21.05 „Światowid"; 21.35 „Mały Teatr TV": „Śniadanie roku 1943" — W. Aksjonowa; 22.05 Dz. TV.

CZWARTEK, 1.XII.

10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „O żakach i uczonych"; 15.55 36 lekcja jęz. franc.; 16.15 Kurs Rolniczy: „Uprawa ziemniaków wczesnych" („Produkcja ziemniaków"); 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.20 Dla młodych widzów: „Sporty zimowe"; 18.10 „Na zdrowie"; 18.30 „To co najlepsze"; 19.00 Film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 Film; 20.15 „Alibi na wodzie" — film fab. CSRS; 21.50 Wszechnica TV; 22.15 Dz. TV; 22.35 36 lekcja jęz. franc.;

PIĄTEK, 2.XII.

11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii: „Wolność i konieczność"; 12.45 Dla szkół: (kl. I) „Jestem zuchem"; 16.20 37 lekcja jęz. ang.; 16.50 Wiad. dz. TV; 16.55 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.10 Dla młodych widzów: „Klub Pancernych"; 17.35 Dla dzieci: „Święta" „Bella i Sebastian" — film; 18.05 „Azymut"; 18.30 „Wielokropek"; 18.45 Wszechnica TV: Reportaż z Biblioteki Narodowej; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 „Osadnicy na suchej prerii" — film fab. kanad.; 21.25 „10 minut recenzji"; 21.35 „Wróg nr 1"; 21.55 Dz. TV; 22.15 37 lekcja jęz. ang.

SOBOTA, 3.XII.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Wielka Brytania"; 10.30 „Grzesznicy bez winy" — film fab. radz.; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Biologia — „Układ oddechowy"; 16.20 Program tygodnia; 16.35 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.45 Wiad. dz. TV; 16.55 Centralna Akademia z okazji Dnia Górnika (Zabrze); 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Pegaz"; 20.45 „Przy sobocie po robocie" — program rozrywkowy; 21.50 „To się zdarzyło o 4-ej rano" „Belphegor czyli upiór Luwru" — film; 22.15 Dz. TV; 22.30 Wiadomości sportowe; 22.40 „Dziwne życzenia pana Barda" — film fab. fr.

# Культурны агляд

**Пачатак лістапада....**

быў багаты культурнымі падзеямі. У сувязі з 49 гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі сімфанічны аркестр у Беластоку падрыхтаваў 2 канцэрты. Першы з удзелам лаўрэатаў фестываляў савецкай песні ў Зялёнай Гуры, другі — камеральны канцэрт савецкага скрыпача **Сямёна Сніткоўскага.**

Чатыры дні ў першай палове месяца (9, 12, 15 і 16) былі днямі ваяводскага агляду аматарскага руху прафсаюзных калектываў. Выступіла 30 калектываў розных форм і велічынь.

Безапеляцыйна пераважалі інструментальныя і вакальныя калектывы малых эстрадных размераў. Хоць нібы Беласточчына хваліцца тэатральным рухам, тэатральных калектываў было мала, што можа сведчыць аб іх нізкім узроўні, які не дапусціў іх на ваяводскі агляд.

На фоне агляду цікава выглядаў жаночы хор з **Чаромухі.**

**Рады парады**

Смешна аб розных парадах і радах піша 18-вечны польскі драматург Міхал Балуцкі ў п'есе «Радцы пана радцы», якую паставіў Беластоцкі тэатр Вянгеркі. Выступіла *Ніна Чэрская* (на здымку), якая некалі іграла ў Беластоку і якая пасля даўжэйшага перарыву прыехала сюды ізноў.



**Аб культуры ў ПГР-ах**

Новае пасядджэнне Ваяводскай камісіі культуры радзіла аб культуры ў ПГР-ах. Калі ідзе рэч аб базе культурнай дзейнасці, то ПГР-ы маюць яе добрую, чаго нельга сказаць аб сетцы клубаў і святліц рад нарадовых і руху. ПГР-ы даюць штогод кожны па 300—500 зл. на пакупку кніжак у сваім павеце. Тут маем і прычыну, чаму ў паўночных паветах Беласточчыны больш купляецца кніжак, чым на тэрыторыі беларускіх паветаў, дзе няма ПГР-аў.

Найбольш ПГР-аў маюць: Голдап — 40. Элк — 33, Алецка — 31.

**Конкурс на беларускую кніжку**

14 лістапада адбылося ў Ваяводскай бібліятэцы першае пасяджэнне Конкурснай камісіі ўсіх арганізатараў конкурсу на чытанне беларускіх кніжак. Камісія зацвердзіла рэгламент конкурсу.

**Аматарскі рух на вёсцы**

Як выказаў Ваяводскі з'езд аматарскіх тэатраў у Беластоку, тэатральны аматарскі рух найбольш шырокі ў паветах: **Сямяціцкім, Сакольскім, Гайнаўскім, Бельскім.**

Малое тут аднак зацікаўленне прафесіянальнымі тэатрамі і дыскусіямі над важнейшымі спектаклямі. (вл)

ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК



**Вугал хаты Аляксандра Жукоўскага з вёскі Пілікі, Бельскага павета. Хата пабудавана ў 1930 г.**

**Фота Ул. Юзвюк.**

МАР'ЯН ФУКС

# Музыка сённяшняй Беларусі

Савецкая Беларусь, хоць аддзелена ад нас толькі граніцай, хоць вельмі блізкая Польшчы і этнічна і гістарычна, хоць параднілася з польскай культурай між іншым і тым, што там нарадзіліся Манюшка, Міцкевіч, Ажэшка, не ва ўсіх галінах культуры добра вядома нашаму грамадству. Асабліва мала мы ведаем аб сучаснай беларускай музыцы, хоць яна характэрызуецца дынамічным развіццём і мае цікавыя дасягненні.

Сапраўднае развіццё беларускай музыкі пачалося пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. У часы царызму на Беларусі не было пастаянных прафесіянальных музычных установ, школ, оперных тэатраў, філармоній. Амаль зусім не было людзей, якія прафесіянальна займаліся музыкай. Толькі беларускі народ, таленавітыя спевакі і танцоры клапатліва і з вялікай любоўю культывавалі і перахоўвалі цудоўныя меладыйныя песні і танцы.

Выразісты музычны фальклор Беларусі прыкоўваў да сябе ўвагу вялікіх кампазітараў. На аснове беларускіх матываў Манюшка стварыў шэраг сваіх песень і музыку да оперы «Ідылія» («Sielanka»), а Карловіч — адзін са сваіх лепшых твораў — «Літоўскую рапсодыю».

Беларускія матывы паяўляюцца ў шматлікіх творах рускіх кампазітараў, а шырока развіў народныя беларускія матывы Рымскі-Корсакаў у оперы «Млада».

З надыходам савецкай улады музыка на Беларусі пачала хутка развівацца. Шырокае поле дзейнасці адкрылася перад кампазітарамі, якія атрымалі музычную адукацыю ў Расіі. Напр., Мікалай Чуркін ужо ў 1921 годзе напісаў першую беларускую оперу «Вызваленая праца».

Трохі пазней у Мінску ствараецца оперны тэатр і філармонія, хутка развіваецца музычнае навучанне. Беларусь мае ўжо сваіх кампазітараў і кадры выканаўцаў. У трыццатых гадах, перад вайной узнікаюць першыя беларускія оперы, як «Міхась Падгорны» Цікоцкага, «У пушчах Палесся» А. Багатырова ці балет М. Крошнера «Салавей». Беларускія кампазітары ў тым часе пішуць ужо шматлікія песні і сімфанічныя творы, шырока развіваецца лёгкая музыка.

У ваенныя гады ствараецца шэраг патрыятычных твораў, як опера Цікоцкага «Алеся», шмат сімфанічных твораў, кантат і песень. Пасля вайны паявілася некалькі новых опер, у тым ліку «Андрэй Кастэня» Аладава, а Багатыроў піша оперу аб героях вайны 1912 года «Надзея Дурава». Сёння ў прыгожа адбудаваным амаль мільённым Мінску і іншых гарадах Беларусі пульсуе музычнае жыццё. Вялікі Тэатр Оперы і Балету ў Мінску побач з класічным рэпертуарам ставіць творы сучасных беларускіх кампазітараў. Цяпер заканчваецца рамонт прыгожага тэатральнага будынка, і спадзяваемся ўбачыць на яго сцэне некалькі новых твораў беларускіх кампазітараў. У апошнім сезоне мне давялося ўбачыць на сцэне мінскага опернага тэатра ў вельмі добрым выканні балет Г. Вагнера «Святло і цені», створаны паводле аповесці П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі». Тэма балету — барацьба новага чалавека з цемрашальствам і забабонамі, перамога вялікага кахання над адсталасцю. Я меў таксама магчымасць разам з кампазітарам Яўгенам Глебавым глядзець яго незвычайна цікавы балет «Мара». Балет парушае сучасныя праблемы і з'яўляецца вялікім дасягненнем маладога, 35-гадовага таленавітага кампазітара. Змест яго — гэта лёсы беларускай танцоўшчыцы, вывезенай у дзяцінстве ў Паўднёвую Амерыку. Пасля драматычнага вяртання ў сваю сацыялістычную айчыну, яна знаходзіць тут сваё месца, каханне і шчасце. Балет ставіўся ў Маскве і карыстаўся там вялікім поспехам. Цяпер кампазітар працуе над операй і чарговай сімфоніяй.

Я назваў толькі два творы, але на сцэне беларускага опернага тэатра можна бачыць і слухаць і іншыя творы сучасных беларускіх кампазітараў.

У прыгожай зале мінскай філармоніі, побач з творамі сусветнай музыкі і творамі беларускіх кампазітараў, як Абялевіча, Камінскага, Глебава, Г. Вагнера, часта гучыць таксама польская музыка. Творы Манюшкі, Шапэна, Агінскага, Веняўскага карыстаюцца тут вялікім поспехам. Добра ведаюць тут і граюць сучасную польскую музыку: творы Шыманоўскага, Карловіча, Ружыцкага, а з навейшай — Лютаслаўскага, Бацэвічоўны, Свяжынскага і іншых.

Вялікі Тэатр Оперы і Балету рыхтуе на адкрыццё сезону пасля летняга рамонту балет сучаснага кампазітара Адама Свяжынскага «Бурштынавая дзяўчына», балет, які з вялікім поспехам шмат гадоў не сыходзіў са сцэны опернага тэатра ў Познані.

Для польскай музыкі на Беларусі адкрыта шырокая дарога, зялёнае святло. Яно мае там шмат сяброў, і яе там сапраўды вельмі любяць.

А. Баршчэўскі, В. Швед

# Дружба і праца

**САПРАЎДНЫЯ СЯБРЫ**

Анатоль і Кастусь былі прыкметнымі хлопцамі ў сваім класе. Кастусь рослы, шырокаплечы, здзіўляў усіх выдумкай, трапным жартам, незвычайнай рухавасцю. Анатоль быў нізкага росту, шчуплы, спакойны, непаспешлівы. І вось гэтыя два хлопчыкі моцна пасябравалі. Многія з гэтага нямала дзівіліся. Дружба іх пачалася з аднаго выпадку. У лістападзе, калі замерзла возера, што было паблізу горада, Анатоль выйшаў раніцай на лёд выпрабаваць новыя канькі, якія нядаўна купіў яму бацька. І толькі быў разагнаўся, зрабіў круты паварот, як нечакана лёд пад нагамі пагражальна затрашчаў і пачаў паволі прагінацца... Хлопчык разгубіўся, не здолеў выбрацца з небяспечнага месца і праваліўся ў возера. Ледзяная вада скавала ўсё цела. Сутургай звяло ногі. Хлопчык у роспачы закрычаў і пачаў тануць. Яго крык пачуў Кастусь, які быў паблізу на возеры. **Ён кінуўся на** дапамогу і выратаваў хлопчыка. З той пары Анатоль і Кастусь сталі неразлучнымі сябрамі.

Яны разам хадзілі ў школу, разам вярталіся дадому. Штодзень пасля абеду Косця прыходзіў да Анатоля, і хлопчыкі рыхтавалі ўрокі. У выхадны дзень сябры хадзілі ў кіно. Калі былі абвешчаны вынікі паспяховасці за другую чвэрць, выявілася, што ў Анатоля былі адны пяцёркі. Ён па праву лічыўся лепшым вучнем класа. Кастусь закончыў чвэрць таксама паспяхова. Але ў яго побач з чацвёркамі былі і тройкі. Гэтая акалічнасць парушыла ранейшыя сяброўскія адносіны паміж хлопчыкамі. Кастусь засумаваў і, хоць стараўся не паказваць выгляду, пачаў зайздросціць сябру.

Аднойчы, вяртаючыся са школы, Анатоль, як і раней, сказаў яму:

— Дык я чакаю. Прыходзь.

Кастусь нічога не адказаў.

— Згодна? — яшчэ раз запытаўся Анатоль.

Хлопчык неахвотна кіўнуў галавою і адчыніў фортку.

Доўга чакаў Анатоль свайго сябра, але дарэмна: ён не прыйшоў. Першы раз хлопчык рыхтаваў урокі без Кастуся. Ён хацеў быў адразу, у гэты ж вечар, пайсці да Кастуся, даведацца, што з ім здарылася, але на двары ўзнялася такая завіруха, што Анатоль пабаяўся выйсці на вуліцу. Назаўтра, калі хлопчыкі сустрэліся ў школе, Анатоль чакаў, што Кастусь раскажа, чаму ўчора не прыйшоў да яго. Але сябра трымаў сябе неяк холадна, адасоблена, не выказваў жадання растлумачыць свае паводзіны. Са школы яны выйшлі разам. Кастусь ішоў, насвістваючы нейкі марш, і ўважліва разглядаў новыя дамы.

Анатоль не вытрымаў, падышоў бліжэй да яго, крануў за плячо:

— Чаму ты ўчора не прыйшоў да мяне?

— Галава балела, — адвярнуўшыся, адказаў Кастусь.

— А сёння?

— Сёння не баліць...

На гэтым размова і скончылася. Кастусь хуценька павярнуў на сваю вуліцу. Для Анатоля так і застолося невядомым, прыйдзе ён сёння рыхтаваць разам урокі ці не прыйдзе. Кастусь і на гэты раз не прыйшоў... Анатоль занепакоіўся. Ён не разумеў, у чым справа. Можа Кастусь пакрыўдзіўся за штонебудзь на яго, ці дома ў яго якая непрыемнасць здарылася. А назаўтра Кастусь нечакана для ўсіх атрымаў двойку па гісторыі. У час перапынку Анатоль падышоў да яго:

— Вось ды паказаў сябе! І не сорамна табе?!

— А чаго мне павінна быць сорамна? — злосна адказаў Кастусь.

— Добра, калі ў цябе галава такая вялікая. Столькі дат трэба помніць...

— Справа не ў галаве, а ў стараннасці, — прамовіў Анатоль.

— Разленаваўся ты, вучыцца не хочаш.

— Падумаеш, — ганарліва кінуў Кастусь. — Указчык знайшоўся! Хто ты такі, што мяне вучыш! — Ён хутка павярнуўся і пакрочыў па калідоры.

Мінула некалькі дзён. У дзённіку Анатоля з'явіліся пяцёркі па геаграфіі і фізіцы. У хлопчыка было радасна на душы, але калі ён паварочваўся і бачыў на суседняй парце сумнага Кастуся, рабілася прыкра. «Чаго ты радуешся? — упікаў ён тады сам сябе. — Што атрымаў выдатную адзнаку? Але твой лепшы таварыш — двоечнік!..»

Пасля ўрокаў Анатоль застаўся на пасяджэнне рэдкалегіі класавай насценнай газеты. Допісаў было многа. Першай паставілі на абмеркаванне заметку «Двоечнік», якую напісаў нехта пад псеўданімам «Калючка», аб дрэннай вучобе Кастуся.

— Па-мойму, заметка правільная і патрэбная, — сказала рэдактар насценгазеты Аня Плотнікава. — Яе трэба змясціць з карыкатурай. Карыкатуру намалюеш ты, Анатоль.

Анатоль ледзь не падскочыў ад нечаканасці. «Вось яшчэ не хапала — намаляваць карыкатуру на сябра. На таго самага сябра, які выратаваў яму жыццё... — падумаў Анатоль. — Што тут рабіць?»

Члены рэдкалегіі падтрымалі прапанову рэдактара. Анатоль маўчаў.

— Ты чаму маўчыш? — звярнулася Аня да Анатоля.

Хлопчык неахвотна падняўся з месца, абвёў прысутных усхваляваным позіркам.



 

## Кароткія парады

Калі вы хочаце ў дарогу ўзяць з сабою бутэльку з вадкасцю, то заклейце горлачка паверх корка пластылінам, вадкасць не выльецца.

Калі ў вязанай рэчы спусцілася адна пятля, яе можна непрыкметна змацаваць воласам.

Кавалачак цукру, прыбаўлены да гародніны, паляпшае яе смак.

Невялікая колькасць воцату добра ачышчае цырату. Некалькі кропель алею, прыбаўленых у ваду, дзе варыцца фасоля, зробяць яе больш мяккай і смачнай.

Разрэзанай бульбінай можна добра пачысціць пацямнелую медзь. (а-лів)



## »SKRYTOBÓJCY«

**Гэта напалавіну дакументальны фільм ГДР, зроблены на канве фактычных палітычных інтрыг у ГФР.**
**Удзел у фільме прынялі артысты з ГДР, Польшчы — Станіслаў Зачык і СССР — Ларыса Лужына.**
**На здымку: кадр з фільма са Станіславам Зачыкам.**

## БЕЛАРУСКІ СПОРТ

**На здымку неаднаразовы чэмпіён СССР, чэмпіён свету, Алімпійскіх гульняў і трохразовы чэмпіён свету па вольнай барацьбе, заслужаны майстар спорту Аляксандр Мядзведзь (справа) на спаборніцтвах. Мядзведзь працуе выкладчыкам у Мінскім радыётэхнічным інстытуце.**



**На шырокім свеце**




На поўдзень ад канадскага паўвострава Новая Шатландыя на Атлантычным акіяне мноства маленькіх выспаў. Адна з іх, так званая, Дубовая Выспа ўжо амаль дзвесце год не дае спакою шукальнікам скарбаў і прыгод. Неспакойны шум вакол гэтай выспы пачаўся дакладна 171 год таму назад, у 1795 годзе. Аднаго разу шаснаццацігадовы жыхар мястэчка Чэстэр на Новай Шатландыі, Даніель Макайнес, паплыў лодкаю на гэту выспу, каб там папаляваць. Крадучыся пасярод дрэў напаткаў ён невялікі грудок з вялікаю ўпадзінаю пасярэдзіне. Магчыма, не звярнуў бы большай увагі на гэты грудок, калі б не тое, што зямля на ім была свежай, побач рос вялізны дуб з тоўстым абцятым голлем якраз над сярэдзінаю гэтай дзіўнай упадзіны. На голлі дуба вісеў блок, падобны да ўжываных на тагачасных караблях блокаў для нацягвання лін. Хлопец, які шмат наслухаўся аб схаваных пірацкіх скарбах, узяўся разам са сваімі сябрамі раскопваць гэты дзіўны грудок. На глыбіні трох метраў дакапаліся яны да тоўстых дубовых дошак. Але пад імі нічога не знайшлі. Капалі далей. Паклады дубовых дошак сустракаліся кожныя тры метры. Дарослыя не кваліліся памагаць ім. Дубовая Выспа мела нядобрую славу.

У 1804 годзе знаходкаю хлопцаў зацікавіўся адзін багаты прамысловец. На глыбіні трыццаці метраў шукальнікі дакапаліся да вялізнай каменнай пліты з нейкімі таямнічымі знакамі, якіх па сённяшні дзень не ўдалося расшыфраваць.

Капалі далей — аж зусім неспадзявана паявілася вада і пачала заліваць капальню. Вада затрымалася на глыбіні дзесяці метраў. Ніякія спробы выпампаваць гэту ваду не ўдаваліся. Макайнес і яго сябры дажылі старасці, паўміралі. Пазнейшыя шукальнікі дакапаліся свідрамі праз ваду да нейкай дубовай скрыні з жалезам. Свідар вынес на паверхню два кавалачкі залатога ланцужка, што ўпэўніла шукальнікаў скарбаў, што іх намаганні аплацяцца. Аднак вада не дазваляла на больш эфектыўную працу. Адзін з капальнікаў выпадкова ўпаў у капальню з вадою і са здзіўленнем сцвердзіў, што вада ёсць салёная, марская. Неўзабаве капальнікі напаткалі вялізныя дрэнажныя руры, якія цягнуліся да марскога берагу выспы. Другі канал такіх руваў напаткалі на глыбіні каля пяцідзесяці метраў.

Прамінула сто год. Пад канец мінулага стагоддзя аднаму з прамыслоўцаў удалося правесці падземны ўзрыў, каб блакаваць каналы. Гэта яму ўдалося. Каб пераканацца ў сваёй удачы, ён заліў капальню вадою зафарбаванаю чырвонай фарбаю. Чырвонай вады наліў у капальню вышэй узроўню вады ў моры. На вялікае дзіва аказалася, што гэта вада апусцілася ў капальні да ўзроўню вады ў моры, але не выплывала яна ў тым месцы, дзе выходзілі ў мора дрэнажныя каналы. Выплыла яна ў мора па другі бок выспы. Гэта сведчыла аб тым, што існуе яшчэ адзін канал, дагэтуль нікому невядомы. Відаць, таму, хто пабудаваў гэтае сховішча скарбаў, вельмі моцна залежыла на тым, каб ніхто да іх не дабраўся. Магчыма, у гэтым сховішчы знаходзяцца бясцэнныя дакументы, якія пралілі б зусім новае святло на гісторыю апошніх стагоддзяў, асабліва палітычную гісторыю. Так ці іначай, гэтае сховішча пабудаваў геніяльны будаўнік-інжынер. Але хто?

Ужо амаль дзвесце год безупынку працуюць тут шукальнікі скарбаў. Ужываюцца найбольш сучасныя метады зямельных работ і шахцёрскага будаўніцтва. Але шукальнікі, у тым ліку і былы прэзідэнт Рузвельт, не маглі і не могуць па сёння нічога канкрэтнага сказаць.

У нашы дні вядома, што на глыбіні пяцідзесяці аднаго метра свідар напаткаў тоўстую жалезную пліту. І пакуль няма ніякіх спробаў на свеце, каб прабіцца праз гэту пліту або абмінуць яе.

(а-ся)




**Камандзір патрульнага карабля пагранвойск Польскай Народнай Рэспублікі паручык Вальчак стаяў на баявым мосціку. Раптам зазваніў кабельны тэлефон.**
**— Грамадзянін паручык! — дакладваў усхваляваным голасам начальнік радыёлакацыйнай установкі. — Нейкае судна! Курс дзвесце дваццаць, аддаленасць чатыры мілі!**
**— Зараз іду да вас! — крыкнуў Вальчак у трубку і пабег уніз. — Ну, што там? — спытаў ён у занепакоенага падпаручыка Станеўскага.**
**— Дзіўна. Цяпер ужо нічога не відаць, — адказаў падпаручык.**
**— Праверце, можа штосьці перашкодзіла, спакойна сказаў Вальчак.**

**Падпаручык Станеўскі быў маладым, дваццацічатырохгадовым афіцэрам. Ён праходзіў службу з Вальчаком ужо каля месяца, гэта значыць з часу, калі на караблі была ўстаноўлена самая сучасная радыёлакацыйная апаратура. Станеўскі запускаў механізмы, настройваў на шкалы і пераключаў рамкі.**

**— Ёсць! — з трыумфам закрычаў ён. Вальчак падышоў бліжэй. Некалькі секунд ён угледаўся ў экран радыёлакатара. Катэр няспынна мяняў курс.**
**— Што б гэта значыла? — звярнуўся ён да Станеўскага.**

**— Падобна на тое, што гэта лайба зусім страціла арыенціроўку! Акрамя таго, адкуль яна тут узялася? Цяпер усе катэры павінны ўжо знаходзіцца ў адкрытым моры ў раёне Барнхольма.**

**— Падазроная справа, — зазначыў падпаручык. — Цяпер толькі катэр выходзіць з раёна тэрытарыяльных вод.**
**— А можа адзін з катэраў «Баркі» пацярпеў аварыю, застаўся ззаду і заблудзіўся? Надвор'е не вельмі... — разважаў уголас Вальчак.**

**— Чаму ж база не паведаміла нам аб гэтым? — спытаў Станеўскі. — Мы абавязаны гэта праверыць, — дадаў ён са злосцю.**

**Вальчак зноў нахіліўся над картай, дэталёва аналізуючы абстаноўку. Некалькімі штрыхамі на карце ён абазначыў пункты перахвату карабля:**

**— Курс сто семдзесят пяць!**

**— Ёсць сто семдзесят пяць!**
**— Поўны наперад!**
**— Ёсць поўны наперад!**
**— Так трымаць!**
**Камандзір не адрываў вачэй ад экрана.**
**— Бачыце? — сказаў ён. — Заўважыў нас. Кідаецца, аж пыл ідзе!**
**Сапраўды, адлегласць паміж абодвума караблямі пачала ўзрастаць.**
**— Гэта ўжо занадта! — усклікнуў Вальчак і пабег наверх у рубку.**
**— Радыётэлеграфіст! Выклікайце базу! — загадаў ён мараку, які сядзеў побач ля рацыі.**
**Пакуль радыётэлеграфіст наладжваў сувязь, Вальчак заняў сваё месца на баявым мосціку і звязаўся з начальнікам радыёлакацыі.**
**— Далажыце адлегласць! — загадаў ён падпаручыку.**
**Мінуту ў трубцы была цішыня.**
**— Ну! — не выцерпеў Вальчак.**
**— Гэта немагчыма... аднак шэсць міль! — далажыў няўпэўненым голасам Станеўскі.**
**Вальчак адкрыў карабельны рупар.**

**— Ці не можаце крыху павялічыць абароты? — спытаў ён у механіка.**

**— Паспрабуем, — прагучаў адказ.**

**— Не разумею, у чым справа, але база ўвесь час не адказвае, — далажыў праз некалькі мінут узмакрэлы ад поту радыётэлеграфіст. — Апаратура ў парадку. Я спрабаваў нават на запасной — не адказвае.**

**— Д'ябал! — вылаяўся Вальчак са злосцю.**
**Вальчак уключыў карабельны тэлефон!**
**— Начальнік радыёстанцыі! Далажыце даныя аб караблі!**
**— Курс сто семдзесят пяць. Адлегласць, бадай, тры мілі.**
**— Што значыць «бадай»? — сярдзіта перапыніў ён Станеўскага.**
**— Грамадзянін паручык! — няўпэўненым голасам сказаў Станеўскі. — Адзін раз — тры мілі, другі — сем. Я ўжо нічога не разумею.**
**Паручык Вальчак выклікаў сваіх намеснікаў і растлумачыў ім абстаноўку. Вальчака перапыніў тэлефонны званок.**
**— Грамадзянін паручык! Курс карабля сто восемдзесят, адлегласць тысяча пяцьсот! — дакладваў узрадаваны Станеўскі.**
**Вальчак паклаў трубку.**
**— Аб'яўляю баявую трывогу! — усклікнуў Вальчак.**
**На палубе карабля пачуўся працяглы звон.**
**— Трывога!**



 

# ТРЫБУНА чытачоў




Прыпамінаем нашым чытачам пра неабходнасць аднавіць падпіску на 1967 год. Падпіску трэба афармляць у мясцовай пошце або ў пісьманосца, бо гэта дае магчымасць рэкламацыі ў выпадку недаручэння газеты.

Умовы падпіскі «Нівы» ў Польшчы:

**на месяц — 2,40 зл**
**на квартал — 7,20 зл.**
**на паўгода — 14,40 зл.**
**на год — 28,80 зл.**

Не адкладайце справу падпіскі на апошнюю хвіліну. Аднаўляйце падпіску самі і заахвочвайце суседзяў, якія яшчэ не чытаюць «Нівы», выпісаць наш тыднёвік.

Прыпамінаем, што таксама можна выпісаць «Ніву» для сваякоў і знаёмых за граніцай. Гадавая падпіска «Нівы» з высылкай за мяжу каштуе 40,40 зл. Грошы трэба высылаць на адрас: Warszawa, ul. Wronia 23 BKWZ „Ruch", падаючы адрас таго, каму выпісваеце газету. Падпіска прыймаецца да 10 снежня.

## Самаадукацыя настаўнікаў

Ад кастрычніка пачаўся самаадукацыйны год настаўнікаў. Праграма самаадукацыі прадбачвае такія тэмы як: пазнаванне вучняў у працэсе навучання, падставовыя выхаваўчыя сітуацыі, праз якія настаўнік можа развіваць патрэбныя ўласцівасці асабовасці вучня. Тэмы даволі цікавыя і карысныя ў педагагічнай працы настаўнікаў. Ваяводскі аддзел Саюза настаўнікаў Польшчы сарганізаваў у Беластоку ў месяцы верасні канферэнцыю кіраўнікоў рэяновых канферэнцый усіх паветаў, дзе выслухалі яны даклады магістра Маразэвіча і мгра Панэка аб новых поглядах і метадах даследванняў над развіццём псіхічных здольнасцей дзяцей школьнага і дашкольнага ўзросту. Павятовы аддзел СНП у Бельску кіруе старанна самаадукацыяй настаўнікаў. Імкнецца выпрацаваць адпаведныя метады працы настаўнікам, якія прынеслі б карысць самім настаўнікам у педагагічнай працы. З гэтай мэтай стварыў магчымасць удзельнічаць у першай у г.г. у Бельскім павеце канферэнцыі выкладчыкаў бельскіх сярэдніх школ, якая адбылася 28.X. у педагагічным ліцэі. Выступленні дыр. педагагічнага ліцэя Мікалая Канашынскага, мгра Кулешы і іншых паказалі іх працу, вопыты і метады ў падрыхтоўцы ліцэістаў да цяжкай прафесіі настаўніка.

**Сцяпан Жужаль**
Катлы

## СКО і часопісы

Сямікласная пачатковая школа ў Грабаўцы (Гайнаўскі павет) прывівае сваім вучням навыкі ашчаднасці. Тут амаль усе вучні маюць нейкія сумы ў школьнай касе ашчаднасці СКО. Агульная сума перавысіла ўжо 8 тыс. зл. Многа ўвагі ў школе звяртаецца і на падпіску часопісаў. І так, ёсць тут 105 падпісчыкаў газет і часопісаў. У гэтым ліку падпісчыкаў «Нівы» — 32 асобы.

**Мікола Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя



## Пасадкі дрэў

Штогод павялічваецца колькасць дрэў на вуліцах Бельска. Гарадская дарожная служба гэтай восенню засадзіла каштанамі, клёнамі і таполямі вуліцу 1-га Мая і Юрыя Гагарына. На здымку: Пасадка дрэва пры вуліцы 1-га Мая.

Тэкст і фота **П. Зінкевіч**



## Колькі прадалі

Жыхары Бельшчыны штогод павялічваюць гадоўлю свіней і быдла. У мінулым годзе на працягу трох кварталаў прадалі дзяржаве 19555 кормнікаў і 4141 штук быдла. У аналагічным перыядзе гэтага года продана 20.739 кормнікаў і 5229 штук быдла. У апошнім дню скупу жывёлы (было гэта 4 лістапада) у ГС-е купілі 165 кормнікаў і 58 кароў.

**П.З.**

## Абконскіх косах

# Аб конскіх косах

У нас, на Сакольшчыне, многія людзі гавораць, што калі ў каня з'яўляецца на грыве каса, дык гэта хохліка работа. Некаторыя зноў гавораць, што касу ў грыве каня завівае ласіца. І вось аднаго разу зышліся Ігнась і Міхась. Ігнась кажа, што для майго каня «хохлік» завіў грыву і стаў даглядаць каня, аж у вачах правіцца. — Які хохлік, і што такое хохлік? — пытае Міхась? Хохлік, — адказвае Ігнась, — хохлік — гэта д'ябал. Робіцца ён катом і калі ўжо палюбіць чыйго каня, то яму носіць авёс і заплятае ў грыве рознымі закрутасамі косы і чысціць таго каня. — Гэта не праўда, — кажа Міхась. Для каня такімі закрутасамі косы заплятае ласачка. — Ты дурны, — кажа Ігнась, — каб ласіца залезла на грыву каня, тады конь на сцены скакаў бы са страху. — А калі твой хохлік зваліўся на грыву для каня, тады конь галавой столь пабіў бы, або сам забіўся б.

— Ну, то скажы, хто коням у грыве косы в'е, не ты і не я, — кажа Ігнась. Ліха яго разбярэ, хто коням косы пляце. Вось пытанне невырашальнае, праўда?

**А. С.**
Сакольскі павет

**Экіпаж карабля ўжо на працягу некалькіх мінут быў у баявой гатоўнасці. Дулы гармат і ствалы кулямётаў грозна накіраваліся ў бездань ночы.**

**Вальчак узяў трубку тэлефона.**

**— Падрыхтаваць пражэктары! — загадаў ён.**

**Востры сноп асвятліў бурлячыя хвалі. Рыбацкі катэр. Вальчак адчуў палёгку. З гэтымі суднамі ў яго ўжо было нямала клопатаў. Ён лічыў шкіпераў найбольш недысцыплінаваным элементам на моры.**

**— Але чаму катэр такі вялікі? — міжвольна здзівіўся Вальчак. — Даць сігнал затрымання! — загадаў ён.**

**Пражэктары на носе карабля пачалі міргаць умоўным міжнародным кодам. Таямнічы катэр ігнараваў загады і працягваў плысці сваім курсам. Вальчак вырашыў нагнаць страху на непаслухмянага рыбака.**

**— Кулямёты! Па дванцаць свецячыхся. Зараджай. Цэль — катэр. Серыя папераджальная... Гатова?**

**— Гатова.**

**— Агонь!**

**У аднастайны шум мора ўварваўся нервовы віск кулямётнай чаргі. Свецячыяся снарады перагарадзілі дарогу ўпартаму катэру, які, аднак, замест змяншэння скорасці раптам змяніў курс на сто сорак градусаў і цяпер рухаўся на іх. Абодва судны хутка набліжаліся. Вальчак загадаў паменшыць скорасць абаротаў машын. Ён паспеў заўважыць, што ў таямнічага катэра няма стацыянарных ліхтароў. Гэта супярэчыла абавязковым міжнародным правілам. Экіпажу карабля рыхтавалася новая нечаканасць. Катэр зрабіў хуткі паварот, і з абодвух яго бортаў вывергліся вузкія струмені агню, пасля чаго катэр аддаліўся на працягу некалькіх секунд на такую адлегласць, што пражэктары, адшукваючы яго, нямала часу блукалі без толку па паверхні мора. Калі, нарэшце, яго знайшлі, судна здавалася ўжо такім маленькім, што ледзь можна было разабраць яго контуры.**

**— Поўны наперад! — крыкнуў у рупар раззлаваны Вальчак. Дрыготкай рукой ён схапіў тэлефонную трубку і загадаў: — Цэль — катэр! Агонь з усіх відаў зброі!**

**Артылерысты і кулямётчыкі толькі гэтага і чакалі. Смяротныя снарады паімчаліся ў бок таямнічага катэра. Але ён усё аддаляўся, пакуль зусім не знік у начной цемры. Паручык Вальчак загадаў застапорыць машыны і наладзіць сувязь з базай. На гэты раз сувязь наладзілася хутка, без усякіх перашкод.**

**(Працяг будзе)**

Папраўкі

## РЭДАКТАРУ

Паважаны калега! Шчыра дзякую за надрукаванне артыкула аб першым друкару Фіёле. Пераклад вельмі добры. Не ведаю, як гэта атрымалася, але мая сакратарка ў рукапісу ўставіла непатрэбнае «не», якое зусім змяніла сэнс. На старонцы пятай майго артыкула ў шостым радку ад канца надрукавана «Фіёла стаў перад судом па абвінавачанню не звязаным з ерассю». Павінна быць: «па абвінавачанню звязаным з ерассю». Радзі Бога, дайце папраўку, бо інакш я згару ад сораму!

**П. Юр'еў**
Лодзь

## Перапрашаю

**У інтэрв'ю са старшынёй Янам Чапляй з нумара 45 з дня 6 лістапада закралася памылка. Ёсць віцэстаршынёй Ваяводскай камісіі ЗСЛь. Павінна быць, зразумела, Ваяводскага камітэта ЗСЛь. Сардэчна перапрашаю таварыша Чаплю і Ваяводскі камітэт ЗСЛь.**

**Вера Леўчук**

# ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 330 | 330 | 330 |
| пшаніца | цэнт. | 500 | 440 | 450 |
| яйкі | 1 шт. | 2,50 | 2,50 | 2,20 |
| масла | кг | 60 | 55 | 55 |
| ялавічына | кг | 35 | — | — |
| свініна | кг | 36 | 37 | 35 |
| сала | кг | 33,5 | 35 | 34 |
| бульба | цэнт. | 90 | 85 | 100 |
| цыбуля | кг | 4,50 | 5 | 4 |
| капуста | кг | 1,50 | 1 | 1 |
| морква | кг | 2 | 2 | 2 |
| буракі | кг | 2 | 2 | 2 |

# КІНО

Праграма на 29.XI. — 4.XII.1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Królewskie dzieci" (NRD), 29—30. XI. „Hamida" (NRD), 1—2. XII. „Koniec nocy" (polski), 3—4. XII.

**Кляшчэлі**
„Cisza! Na sali operacja" (radz.), 29—30.XI. „Śmierć Belli" (włoski), 1—2 XII. „Zawsze w niedzielę" (polski), 3—4.

**Дубіны**
„Noc przedślubna" (czeski), „12 milionow Holendrów" (holenderski), 3—4. XII.

**Нарва**
„Dwie noce jednego dnia" (jugosł.), „Giuseppe w Warszawie" (polski), 30. XI. — 4. XII.

**Нараўка**
„Pociąg na tyły" (radz.), „Macario" (meksykański), 30. XI. — 4. XII.

**Чыжы**
„Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), „Dworek 4-ech dziewcząt" (węgierski), 30. XI.—4.XII.

**Дубічы Царкоўныя**
„Milczenie" (polski), „Kronika jednego dnia" (polski), 30. XI. — 4. XII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Kto sieje wiatr" (USA), „20 godzin" (węg.), 30.XI.—4. XII.

**Орля**
„Yanco" (meksykański), „Niedziela sprawiedliwości" (polski), 30. XI. — 4. XII.

**Райск**
„Miłość jednej nocy" (rumuński), „Dylemat" (duński), 30. XI. — 4. XII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Alibi nie wystarczy" (czeski), 29. — 30. XI. „Okno na Lunapark" (włoski), 1—2. XII.

**Міхалова**
„Strachy zamku Spessart" (franc.), 29—30. XI. „Czterdzieści dni" (jugosł.), 1—2 XII, „Czarny monokl" (franc.), 3—4. XII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Bestia" (węgierski), 29 — 30. XI. „Dwaj panowie N" (polski), 1—2. XII. „Sposób bycia" (polski), 3—4 XII.

**Мілейчыцы**
„Diabelska przepaść" (czeski), 29—30 XI. „Profesor Mamlock" (NRD), 1—2. XII. „Zemsta OAS" (franc.), 3—4. XII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Bajka o mrozie czarodzieju" (radz.), 29—30.XI. „A jednak cię kocham" (radz.), 1—2. XII. „O carski tron" (bułg.), 3—4. XII.

**Шудзялава**
„Czarne skrzydła" (polski), „Kapral i inni" (węgierski), 30. XI.—4. XII.

**Сідра**
„Uwaga! Czarny kot" (radz.), 29—30. XI. „Baza ludzi umarłych" (polski), 1—2. XII. „Fatalny list" (angl.), 3—4. XII.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Jo-jo" (franc.), „Obca krew" (radz.), 3—4. XII.

**Ліпск**
„Foto Haber" (węgierski), „Gwiaździsty bilet" (radz.), 3—4. XII.


НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.902 Błtk. D-2

# ВАЛОДЗЬКА СПАРТСМЕН

Доўгі час ніхто ў Вялікай Дулі не ведаў, што сталася з Язэпавым сынам, Валодзькам Скакуном. Хлапец цалкам адмяніўся. Перастаў піць гарэлку, курыў толькі чатыры разы ў дзень і на Гаўрылаву Маньку глядзеў цалкам абыякава. Прадаў свайго «юнака» і ў поле пачаў хадзіць пехатою. Дык каб толькі хадзіць. Ён бегаў. Учапіўшыся за дубінку, бяжыць цэлую дарогу. Там і назад.

— Гэй, Валодзька! — пыталі людзі. — Што так ганяешся? Ці рыцыны напіўся?

Ён маўчаў і далей скакаў за возам.

Аднойчы ў нядзелю сядзелі мы на лавачцы, бо яшчэ цёпла было і балакалі аб тым і сім. Ажно бачым, імчыцца Язэпава кабыла, а за ёю — Валодзька, за хвост трымаючыся. Кабыла іржыць, а Валодзька крычыць:

— Тормаз сарваўся! Спыніце яе!

Мы добра не дачулі і зразумелі, што Валодзька просіць падагнаць гультайніцу. Кінуліся дзеці. Пасыпаліся камяні. Язэпава кабыла жаласна заіржэла і паімчалася галопам. Толькі пыл стаўбом панёсся.

— Госпадзі, навошта ён скаціну так мучыць, — пачалі ўздыхаць бабы.

Якраз папаўся ўзгорак, з якога Язэпава кабыла панеслася ва ўсе чатыры ногі, як хуткі цягнік. Бачым, Валодзька завіс у паветры і ляціць, бы касмічная ракета. Прызямленне выпала ў прудзе. Гэта выратавала Валодзьку ад немінучай смерці. Абышлося толькі пераломам рукі, некалькімі параненнямі галавы і агульнай кантузіяй.

Пасля месяца Валодзя вярнуўся з бальніцы і зноў пачаў ганяцца за кабылай. Купіў нейкі дзіўны гадзіннік, што толькі секунды і мінуты мерае, на выгане калкамі абазначыў нейкія адлегласці. Кабыла ўжо высахла як дошка, а ён не даваў спакою.

Задумоўваліся мы, ці не адправіць яго неяк у гэтую бальніцу, што ў Харошчы, але Валодзькін бацька не хацеў заплаціць за трактар.

І тады справу высвяціў сам Валодзька. Прышоў вечарам да мяне, бухнуў паўлітроўку на стол і кажа'

— Я, штопраўда, алкаголю не п'ю, але маю ліст. Дык скажыце, ці добра напісаў, бо ад гэтага будучыня мая залежыць.

Узяў я ліст і чытаю:

«Да сусветнага майстра спорту! Я, ніжэй падпісаны, сын малазямельнага селяніна, моцна хачу быць спартсменам і бегаць на сусветных спаборніцтвах. Прыклад бяру я з вас, бо бачыў, як бегалі вы ў тэлевізары. Напішыце мне, што рабіць, каб стаць сусветным бегуном. У гонках з кабылай майго бацькі дасягаю я ўжо 15 секунд на 100 метраў. Але далей не хапае сіл, і кабыла моцна пахудзела. Чуў, што спартсменам плацяць грошы на дадатковае харчаванне. Да каго звярнуцца, каб мне плацілі?»

Ліст я пахваліў. Валодзька выслаў яго заказным. Цяпер чакаем на адказ — Валодзька і я —

Асака

# НІЎКА

— Старая ведзьма!



— Ад ведзьмы чую!



Усё людское нам не чужое

## ГАДЗІННІК ДЛЯ РАЗУМНЫХ

Аднойчы адзін дзядзька запытаў незнаёмага хлапца:

— Скажыце, калі ласка, якая гадзіна?
Нічога не гаворачы, хлапец паказаў яму свой гадзіннік.

Дзядзька паглядзеў на цыферблат і кажа:
— Не, я тут нічога не разумею.
— Дык гэта ж гадзіннік толькі для разумных, — адказаў хлапец.
— Для разумных? — здзівіўся дзядзька. — Тады я не разумею, як ён мог да вас трапіць.

## ЯК СЫН ЗБІРАЎСЯ БАЦЬКУ ПРАДАВАЦЬ

Кажа сын бацьку:
— Збірайцеся, тату, я павяду вас на кірмаш прадаваць, бо больш няма чаго...
Бацька сеў сабе ў куточку ды плача.
А сын:
— Ды не плачце, тату, я за вас на кірмашы загну такую цану, што ніякі чорт вас не купіць.

## ІМУНІТЭТ

Жонка праводзіла мужа ў замежнае падарожжа і навучала:
— Беражыся, Іван, там, кажуць, усялякай нечысці багата — гадзюкі, змеі, скарпіёны...
— Не хвалюйся, мілая, за пяць год, пражытых з табою, у мяне вырабіўся імунітэт...

## АПРАЎДАЎСЯ

— Ой, ліха на цябе! Дзе ж гэта ты налізаўся, як свіння, — сказала жонка, убачыўшы мужа, які ледзь перапез цераз парог.
— Ды... ды... я крышачку... вось столечкі, — паказаў муж краечак пальца.
— Брэшаш, падла, брэшаш мабыць дзвесце раз па столькі.
— Не, толькі адзін раз, з... цэбрыка...

**Па загаду Пентагона пабольшана лік амерыканскіх войск у В'етнаме.**



— Хто там далей, прашу!

# ЮНАЯ БЯРОЗКА

*Сл. А. Ставера* *Муз. Ю. Семянякі*



*Зелянее ў парку юная бярозка*
*І прахожых вабіць свежаю ліствой.*
*Слухай, юная бярозка! (2 разы)*
*Ад чаго мне сумна бачыцца з табой?*

*Колькі ёсць, бярозка, у цябе лісточкаў, —*
*Столькі ты спатканняў бачыла ў жыцці.*
*Толькі, юная бярозка, (2 разы)*
*Да цябе ўдваіх я не магу прыйсці.*

*Падкажы, бярозка. Падкажы, красуня,*
*Дзе ж мне, дзе каханне мне сваё шукаць?*
*Ах як, юная бярозка, (2 разы)*
*Годы маладыя ад мяне ляцяць.*

*Зелянее ў парку юная бярозка*
*І прахожых вабіць свежаю ліствой.*
*Слухай, юная бярозка! (2 разы)*
*Ад чаго мне сумна бачыцца з табой?*
*Ад чаго?*



— Вось гэты баліць, ніжні злева.




## Груптоўны адказ

Ноччу ў адным нью-йоркскім парку гангстэр, накіраваўшы пісталет на добра апранутага пана, злавесна гаворыць: «Бумажнік або жыццё!» Пан моўчкі працягвае стаяць. Гангстэр раззлаваны: «Бумажнік або жыццё!» — «Не прыспешвайце, я якраз над гэтым і думаю», — адказала яго ахвяра.

## Шлюбнае пасведчанне

Калі бразільскі мільянер Родрыгес дэ Пінью браў шлюб у Рыо-дэ Жанейра, ён зусім не ўмеў чытаць, а напісаць мог толькі назву сваёй фірмы. Таму шлюбнае пасведчанне ён падпісаў так: «Мануэль Родрыгес дэ Пінью і кампанія».

## Пашкадаваў

Японскі кіноартыст Шыгенары Ніва адсядзеў у турме чатыры гады за тое, што распаўсюджваў фальшывыя грошы. Аднак сам Ніва ў падробцы грошай не вінаваты: ён проста атрымаў іх на час здымак аднаго з эпізодаў фільма. На судзе артыст абараняўся так: «Мне здалося глупствам выкідваць пасля заканчэння здымак такія добра намаляваныя грошы, і я пусціў іх у абарот».

## Гонка за лідэрам

Кожны раз, калі барацьба на рынгу ў Чыкагскім палацы спорту дасягала асаблівага напалу, баксёры раптам нечакана разбягаліся ў розныя куткі. «Што здарылася? — пытаецца суддзя на рынгу. — «А нічога асаблівага, проста радыёкаментатар так хутка каменціруе наш бой, што мы не паспяваем за ім».



Ведай: той, хто пры табе абгаворвае другога, пры другіх абгаворыць цябе.